Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 7. Вільня, Серада, 9-га сьнежня 1925 г. Год I.



## Першы блін комам.

Выхад у сьвет новае беларускае газэты *ідэйнага* характару—заўсёды зьявішча дадатнае: яно сьведчыць аб росьце беларускае палітычнае мысьлі, паказуе, што сярод беларускага ідэйнага грамадзянства нарастаюць новыя сілы, якія шукаюць новых дарог дзеля выхаду з сучаснага трагічнага палажэньня Заходняе Беларусі.

І мы сустрэлі выхад у сьвет першага нумару „Сялянскае Нівы“ з асаблівым зацікаўленьнем: новы орган мае выяўляць думкі і пагляды *новае беларускае групы—„Беларускага Сялянскага Саюзу“*, на чале якога стаяць *дэпутаты Рагуля і Ярэміч*.

Аднак, бліжэйшае знаёмства са зьместам першага нумару газэты выклікала ў нас глыбокае расчараваньне. Справа ў тым, што тварцы „Беларускага Сялянскага Саюзу“ ў аснову сваей ідэалёгіі паклалі зусім фальшывы пагляд на істоту сацыяльных адносінаў, прыняўшы бяскрытычна за факт істнаваньне супярэчнасьці інтарэсаў вёскі—сялянства — і мястовых работнікаў.

Там, дзе паміж працоўнымі масамі вёскі і места не стаяць пасрэднікі ў пастаці непрацоўных клясаў (фабрыканты, абшарнікі, гандляры),—там, дзе няма над імі тэй сацыяльнай падбудоўкі, якая забірае і ў селяніна, і ў работніка львіную долю прадуктаў іх працы,—там, дзе гаспадарчым жыцьцём кіруе супольная воля сялян і работнікаў,—там ніякае супярэчнасьці паміж інтарэсамі апошніх *няма і быць ня можа*: *працоўная* вёска і *працоўнае* места ўзаемна дапаўняюць сябе, узаемна сабе неабходны, узаемна зацікаўлены ў расцьвеце і вёскі і места. Доказ гэтага дало само жыцьцё там, дзе на дзепе ўстанавілася ўлада гэнае *адзінае волі працоўных вёскі і места*. І толькі там, дзе селянін і работнік ішлі рука ў руку, — толькі там яны дасягалі сваей мэты, перамагалі свайго супольнага ворага. Дый гісторыя пацьвярдзіла гэта ўжо даўно: даволі прыпомніць, што ўсе сялянскія рухі, якія ня мелі саюзьніка ў месьце, заўсёды і ўсюды канчаліся паражэньнем сялян, — што і ў беларускім адраджэньні найвялікшай нястачай зьяўлялася—дый у Заходняй Беларусі зьяўляецца і цяпер! — акурат тое, што *беларускія сілы ў месьце слабыя*, і голас вёскі прападае і заглушаецца шумам *небеларускага места*. І „*заваяваньне места*“ для беларускае справы—настолькі важнае, што аб гэтым *ня могуць ня ведаць тыя, хто маніцца быць павадыром нашага сялянства*!

Мы паўтараем тутака даўно ўжо ўсім вядомыя рэчы затым, што орган „БСС“, зусім справядліва гаворачы аб *патрэбе сялянскае арганізацыі*, хоча гэтую арганізацыю павясьці не адзіным правільным шляхам — шляхам супрацоўніцтва з мястовым пралетарыятам, а шляхам *разьдзелу і мо' нават змаганьня двух родных братоў: селяніна і мястовага работніка*. Зусім справядліва, што дзеля працы сярод сялянства прыходзіцца тварыць асобны арганізацыйны апарат, як у сваім часе „Беларуская Сацыялістычная Грамада“ была стварыла свой „Беларускі Мужыцкі Саюз“*). Але якраз БСГ *злучала* гэную сваю сялянскую арганізацыю з агульна-пралетарскім рухам на груньце *адзінае ідэалёгіі*, — пад той час, як орган паслоў Рагулі і Ярэміча маніцца „выпрацоўваць беларускую сялянскую ідэалёгію“, стаўляючы яе *супраць* ідэалёгіі працоўных места.

Вось першая абмылка ў пастаноўцы сялянскага пытаньня „Беларускім Сялянскім Саюзам“ і ягонай газэтай. Але гэта—не адзіны грэх новае газэты!

У стацьці пасла Ярэміча пад вельмі красамоўным загалоўкам: „Патрэба спадзявацца прад усім на свае ўласныя сілы“—мы сустракаем ужо не несьвядомую мо' прынцыповую абмылку, а яўнае *баламуцтва*.

Так, усім ведама, што ў Усходняй Беларусі, дзе прыватны гандаль зусім зьліквідаваўся, цэлая маса дробных мястэчковых гандляроў-жыдоў апынулася ў бязвыхадным палажэньні. Ім няма за што зачапіць рукі. Але ведама такжа, што гэтыя самыя дробныя гандляры ў значнай меры зьвязаны і з зямлёй: аднэй з падставаў іх істнаваньня бадай усюды зьяўляліся гароды, утрыманьне каровы, каня і т. п. Вось, радавая ўлада і надумала гэных безработных людзей, *адвечных жыхараў Беларускае зямлі*, надзяліць зямлёй і абсадзіць на гаспадарках — нароўні з сялянамі, стараючыся з гэтай мэтай асушаць каля мястэчак балоты, папраўляць няўжыткі і г. д., каб зямля была недалёка ад месца, дзе гэткі былы гандляр паставіў сабе хату.—Восьжа „Сялянская Ніва“ з зусім няпрыстойнай дэмагогіяй стараецца гэту справу прадставіць у зусім фальшывым сьвятле, стаўляючы справу надзяленьня зямлёй адвечных жыхараў Беларусі—жыдоў—нароўні з справай *польскага асадніцтва ў Заходняй Беларусі*, дзе зямля даецца *не грамадзянам гэтага краю*—хоць-бы і польскае нацыянальнасьці, а *пасыланым з мэтай апалячываньня краю былым вайсковым і сялянам з этнаграфічнае Польшчы*, ды гэтак *нацыянальнае дабро беларускага народу аддаецца выхаджэнцам з чужны*! Калі павадыры „Беларускага Сялянскага Саюзу“ ня бачаць тут запраўды ніякае розьніцы, дык вельмі сумна, што яны няздольны, як сьлед, ацаніць польскую асадніцкую палітыку і з практычнага і з маральнага боку. Але яшчэ больш сумна, што яны сваімі заявамі аслабляюць вострасьць пратэсту сялянства Заходняе Беларусі проці польскага асадніцтва: бо-ж паказваньне на тое, быццам „тое-ж самае“, што ў нас палякі, робяць з зямлёй *беларускія* ўлады ў Радавай Беларусі (хоць гэта, у дадатку, нязгодна з праўдай!), — гэта можа мець зусім ясныя вынікі.....

Веручы ў *ідэйныя імкненьні* „Сялянскае Нівы“, мы, аднак, гэтак неміласэрна вытыкаем новай газэце і тварцом яе тыя ідэйныя і тактычныя *абмылкі*, якія зроблены пры першым-жа публічным выступленьні „Беларускага Сялянскага Саюзу“,—з адзінай мэтай: каб новая арганізацыя іх *папpавіла і... не паўтарала*! Рэдакцыі „Сялянскае Нівы“ напомнім старую лацінскую прыказку: „Cuiusvis hominis est errare, nullius nisi insipientis in errore perseverare“, што пабеларуску знача: „кожны можа памыляцца, але толькі дурны будзе ўпірацца пры сваёй абмылцы“.

*Бр. Тарашкевіч.*
Дэпутат Сойму.

*) Аб гэтым факце паважаны аутар „Успамінаў“ аб БСГ у папярэднім нумары нашае газэты, мусіць, забыўся, бо аб ім не успамінае.

## Што было і што ёсьць.

(*Успамін аб школьніцтве ў Горадзеншчыне*).

Як ведама, 13 лістапада беларускае грамадзянства ў Вільні спраўляла сьвята дзесяцілетняга юбілею залажэньня першае беларускае школы.

Гэны гістарычны факт падлажыў моцны фундамант пад беларускую асьвету. З таго часу беларускае школьніцтва стала няўпынна пашырацца. Наш народ ахвотна пачаў гарнуцца да свае роднае школы. І хоць у той час нямецкая акупацыя дужа была цяжкаю, і нямецкі імпэр'ялізм зусім ня лічыўся з дамаганьнямі люднасьці; аднак, усё-ж-такі школьніцтва энэргічна разьвівалася. Тлумачыцца гэта тым, што школа была ня штучным творам, а жыцьцёвай патрэбнасьцю, якая ўзгадовывалася ў працягу шмат гадоў у думках беларускага народу. І там, дзе не ўмяшаліся варожыя беларускай школе рукі, дык яна і па сяньняшні дзень нармальна цьвіце і дае асьвету сваім гадунцам. Але, на жаль, іх вельмі мала засталося.

Да гэткіх нямногіх шчасьліва істнуючых беларускіх школаў належыць Бел. Пачатковая школа у Горадні, якая залажылася ў канцы 1916 г.

Да жыцьця паклікана была, дзякуючы надзвычайнай энэргіі ідэйнага кіраўніка яе, с. п. Аляксандра Грыкоўскага.

Пэдагог з прызваньня і патрыёт з душы, А. Грыкоўскі даў моцны кірунак у навучаньні дзяцей.

Праца была вельмі цяжкая. Бо, запраўды, трэба было быць ня толькі вучыцелем, але і твар-

# Беларусы! Пасьпяшайце падаць школьныя дэклярацыі да 31 сьнежня!

## Канец „кітайскае раунавагі“...

Апошнія здарэньні ў Кітаі рашуча пакончылі з тым станам, які трафна быў названы „кітайскай раўнавагай“.

Справа ў тым, што дагэтуль Пэкінскі ўрад захоўваў пэўны „аўтарытэт“ у Кітаі—і меў прызнаньне з боку дзяржаваў — ня дзеля таго, што меў нейкую рэальную ўладу ў краі, але толькі дзеля таго, што абедзьве запраўды рэальныя сілы: манчжурская армія Чан-Тсо-Ліна і так зван. народная армія ген. Фэнга (кантонскага „чырвонага“ ўраду) больш-менш зраўнаважывалі адна адну.. Першая сіла апіралася і „орыентавалася“ на замежныя сілы—Англію і Японію; другая—на народ у распачаўшымся магутнай хваляй стыхійным працэсе нацыянальнага вызваленьня з-пад улады чужынцаў. Можна было неабмыльна прадбачыць, што гэтая ў груньце фальшывая „раўнавага“ павінна будзе ў хуткім часе захістацца. Для разумеючага справу даўно было ясна, што ня вышэйшая тэхніка найміта-здрадніка, але вялікая ідэя, закаліўшая і асьвяціўшая дух народу — пераможа ў апошняй барацьбе.

Актыўным нашэльнікам гэтага народнага духу зьяўляецца ў Кітаі — партыя „гоміндан“. „Гоміндан“—гэта не „паўдзённа-заходняя група“ Кітаю,—не „кантонскі ўрад“: гэта — вялікая **нацыянальная партыя**, якая мае магутныя, а цяпер—рашучыя ўплывы на прасторы ўсяго Кітаю... Традыцыі гэтай партыі ідуць ад вялікага ўсе-кітайскага павадыра і нацыянальнага героя-доктара Сун-Ят-Сэна. Аснаўным канкрэтным пунктам яе праграмы—лёзунгам практычнай барацьбы — быў пратэст проці так званых „аднабокіх дагавораў“, накінутых Кітаю гвалтам у розныя часы імпэрыялістычнымі дзяржавамі.. І гэты лёзунг змушаны былі прызнаць і прыняць усе партыі і групіроўкі Кітаю—за выняткам прадаўшагася гэтым імпэрыялістам Чан-Тсо-Ліна.. Гэтым ён аканчальна пахаваў сябе ў вачах народу і сваей-жа ўласнай арміі. Рэшта—рэзультат няўхільнай працы часу... Апошнія выпадкі, пазбавіўшыя Чан-Тсо-Ліна 100.000 душ арміі — з агульнага ліку 150.000! — зьяўляюцца запраўднай рэвалюцыяй проці японска-англійскага найміта. Гэтым аканчальна ліквідуецца ўсё „правае крыло“ кітайскага „дракона“, уся рэальная сіла „манчжурскай групы“, і—валіцца ўся „кітайская раўнавага“... Адзіным рэальным валадаром усяго Кітаю аказалася—„народная армія“, якая ідэйна жывіцца—„гоміндaнам“.

Цяпер усялякая дапамога Чан-Тсо-Ліну зьяўляецца выразнай **чужаземнай інтэрвэнцыяй**... І вось, газэты даносяць, быццам „ратуючы“ „пляцоўкі“ свайго імпэрыялізму ў Кітаі, Японія (пэўна-ж не бяз рэальнага „багаслаўленьня“ Англіі!)— наважылася на гэтае збройнае ўмяшацельства...

Але Кітай можа быць спакойны: лёс усіх інтэрвэнцыяў—аднолькавы!..

---

рыць у рэальнасьць польскага бюджэту, — дык і пачакае на яго грунтоўнае абмяжаваньне...

Трэба толькі памятаць, што Амэрыка рашуча заявіла, што ніводнага даляра ня дасьць Эўропе на падтрыманьне руйнуючых жыцьцё народаў—паразытных арміяў...

### Водгукі спадку злотага.

У зьвязку з раптоўным спадкам польскай валюты ў многіх местах Польшчы, з Варшавай на чале, амаль не дайшло да паважных народных забурэньняў.

Таргоўцы пачалі, як заўсёды, падвышаць цэны на ўсе прадукты і тавары, ды навет ня толькі на тыя, што запраўды купляюцца на даляры. А тут якраз спадак валюты адбыўся на 1-га сьнежня, калі ўсе чыноўнікі і работнікі атрымалі пэнсіі і кінуліся закупляць на запас прадукты. Гандляры спалохаліся і пахавалі прадукты. Тады ў шмат местах пачаліся запраўдныя асады і разгромы крамаў. Паліцыя быццам атрымала загад не дазваляць падвышэньня цэнаў. Можа гэта і было зроблена ў Варшаве, але ў нас у Вільні аб гэткім загадзе штосьці ня было чутно.

У фабрычна-заводзкіх раёнах амаль не дайшло да паважных здарэньняў, бо работнікі, абураныя на бязьдзейнасьць уладаў проці спэкулянтаў, адкрыта пагражалі, што будуць рабіць самасуды.

### Значнае падаражэньне хлеба.

Вельмі значна ўзрасла цана на ўсякага роду хлеб. Здаецца, хлеб у Польшчы ня купляецца за даляры. Папросту, паны абшарнікі, млынары і спэкулянты скарысталі з „добрага выпадку“. А паны ўрадавыя сацыялісты прадаўжаюць „абурацца“ на гэта ў сваей газэце, хаця, здаецца, маюць сваіх „работніцкіх“ міністраў, каб беспасрэдна націскаць на ўрад.

Што датычыць усіх загранічных тавараў, дык цэны на іх, падскочыўшы вельмі значна, ня зьніжаюцца навет цяпер, калі злоты навет значна паправіўся на курсе (каля 8 зл. за даляр).

### Як размаўляюць з работнікамі „работніцкія міністры“.

У Варшаве адбылася канфэрэнцыя новага міністра Земенцкага (ППС) з прадстаўнікамі цэнтральных работніцкіх арганізацыяў Польшчы. Канфэрэнцыю склікаў сам міністар, які выразіў жаданьне „захаваць сувязь з работніцкімі кругамі“ і „пачуць ад прадстаўнікоў работнікаў іх дамаганьні,—каб быць падгатаваным на ўсялякі выпадак да акцыі“. Такім „высокім штылем“ піша афіцыяльны ПАТ аб прамове пана міністра да работнікаў.

Работнікі заявілі міністру, што катастрафічны ўзрост дарагоўлі робіць немагчымым іх палажэньне, дык яны будуць трэбаваць дадаткаў да платы, шчырай барацьбы ўраду з дарагоўляй і спэкуляцыяй, забароны вывазу хлеба за граніцу, і г. д. З абурэньнем работнікі заявілі, што навет у дні цяжкага крызісу гаспадары іх ня выплацілі ім запрацаваных грошаў.

Міністар падзякаваў работнікам за шчырасьць і заявіў, што ў ратаваньні палажэньня павінна прыняць учасьце ўсё грамадзянства. А што ён, міністар, з свайго боку зрабіў ужо вось, напрыклад, гэтую канфэрэнцыю з работнікамі, каб... „захаваць сувязь з работніцкімі кругамі“.

### „Пякельная машына і даляры“.

Шукаючы камуністычнай друкарні, паліцыя ў Віньніцы зрабіла шмат вобыскаў і арыштаў, прычым у некалькіх прадстаўнікоў жыдоўскай інтэлігенцыі былі знойдзены... значныя сумы ў далярах, а таксама і—бомбы і часткі „пякельнай машыны“ (!).. Падаючы гэтыя весткі, „Kur. Por.“ дадае, што гэтыя рэчы (і даляры?!) падкінуты, відаць, камуністамі“...

Калі так, дык зразумела — усё трэба сканфіскаваць...

## Заграніцай.

### Сэсія Рады Лігі Народаў.

Пачалася 37 сэсія Рады Лігі Народаў.

На павестцы дня стаяць справы англа-турэцкага канфлікту за Мосуль і ліквідацыі грэцка-баўкарскага спору.

У канцы Рада займецца.. справай меншасьцяў.

Ужо ведама, што Нямеччына ня зробіць на гэтай сэсіі заявы аб жаданьні ўвайсьці ў склад сяброў Лігі, выжыдаючы аканчальнае эвакуацыі Кельнскага абшару...

Рада Лігі зьвярнулася афіцыяльна да ССРР і Амэрыкі з прапазіцыяй прыслаць сваіх дэлегатаў у камісію, якая мае падгатаваць агульнае разбраеньне.

Быццам у сувязі з гэтым Чэмбэрлен заявіў, што для ССРР дзьверы Лігі заўсёды расчынены—справа толькі ў жаданьні ССРР увайсьці... Гэткая ветлівасьць Англіі вельмі зразумелая, бо без ССРР усялякія размовы аб агульным разбраеньні—пераліваньне з пустога ў парожняе, як кажуць расейцы..

### Пасьля падпісаньня „Лёкарно“.

Пасьля падпісаньня ў Лёндане Лёкарнскіх трактатаў Брыян заявіў, што з усіх трактатаў, якія ён падпісаў, ён больш усяго пышаецца Лёкарнскімі, бо яны кладуць пачатак цеснага супрацоўніцтва Францыі з Нямеччынай.

Бэнэш у сваей прамове каротка заявіў, што падпісывае Трактаты з даручэньня ўсіх партыяў, за выняткам камуністаў (якія ў чэшскім сойме зьяўляюцца другой па ліку паслоў фракцыяй!).

Штрэзэман заявіў, што сымвалічный азнакай зьяўляецца тое, што ў дзень падпісаньня Трактатаў у Лёндане няма... туману...

### Адстаўка нямецкага габінэту.

Давёўшы да канца справу Трактатаў у Лёкарно, габінэт Лютэра і Штрэзэмана падаўся ў адстаўку, якая прынята прэзыдэнтам.

Прэзыдэнт даручыў былому канцлеру Лютэру і ўсім міністрам часовае ўрадаваньне, пакуль ня будзе зложаны новы габінэт.

Думаюць, што той-жа Лютэр будзе шэфам новага ўраду. Аб сваей згодзе на ўваход да новага ўраду заявіў і Штрэзэман...

### Да спатканьня Чычэрына з Чэмбэрленам.

Як пішуць газэты, спатканьне Чычэрына з Чэмбэрленам мае адбыцца ўІталіі, куды Чычэрын паедзе на курацыю і куды мае, быццам на адпачынак, прыехаць і Чэмбэрлен.

### Зьмена ўраду ў Гішпаніі.

Ваенны дыктатар краю ген. Прыма дэ - Рывэра пасварыўся з сваімі „дырэктарамі“ (міністрамі), якіх усіх змусіў падацца ў адстаўку. Пасьля гэтага—быццам з даручэньня караля, як і ў іншых канстытуцыйных краёх,—той-жа Рывэра „сфармаваў новы габінэт“, у якім нават міністар фінансаў—ваенны генарал!

### Фінансавыя праекты француcкага ўраду.

Францускі парлямант пасьля вельмі бурных спрэчак прыняў значнай большасьцяй галасоў усе фінансавыя праекты новага міністра фінансаў Люшэра, якія прадбачаць новы выпуск папяровых франкаў (інфляцыю), павялічэньне падаткаў ад таргових даходаў на 20 процантаў, ад капіталаў—на 25 проц., ад капальняў—на 100 проц. Сацыялісты рашуча высказаліся проці інфляцыі, карыснай для фабрыкантаў, але руйнуючай працаўнікоў. — Сацыялісты, як ведама, дамагаліся — на папраўку скарбу — частковай канфіскацыі капіталаў, што адкінута „левым блёкам“ радыкалаў.

## З творчасьці наймалодшых.

* * *

І ў нязнанай цьмяной далі словаў новых мы шукалі,
словаў новых мы шукалі і ня здолелі знайсьці...
А ў жытнёвым у прасторы рассыпалі песьні зоры,
рассыпалі песьні зоры каля возера ў трысьці.
І ня думалі ніколі, што у нашай моцы доля,
што у нашай моцы доля і ня вырвецца ад нас;
не магло нам і прысьніцца—нашых думак калясьніца,
нашых думак калясьніца—гэта сьвету апаяс.
Хто-ж казаў, што ў цьмянай далі словаў новых мы шукалі,
словаў новых мы шукалі і ня здолелі знайсьці?..
Новы дзень не за гарамі. Наша доля будзе з намі,
наша доля будзе з намі днямі яснымі цьвісьці.

(„С. Б.“) **Ал. Дудар.**

## За работай.

Ооп! Падымай!
Ты!—дваццаць раз гаварыць?!
Тут, брат, глядзі—не зявай—
Тут, брат, работа кіпіць...
— Раз! Два!
— Натуж
— Ўправа!
— Оосп!
— Ах каб цябе паралюш!
Хлопцы, зафаіць дымок!..
Хтось „Выду-ль я“ зяцягнуў.—
Клін прыпускае Ігнат:
— Што? захацелась бліноў?..
. . . . . . . . . . . . . . .
Кроква за кроквай ўстае...
Жвава работа кіпіць...
Жылістай, моцнай руцэ
Хочацца грош зарабіць...

Вільня, 1925 г. **Малады.**

---

### Францускі „Мір“ у Сірыі.

Новы францускі „высокі камісар“ у Сірыі ў прамове на ўрачыстым прыёме заявіў, што Францыя хоча міру ў Сірыі, але тыя, што хочуць вайны, будуць яе мець...

Канфэрэнцыя гэтага камісара з павадырамі сірыйскіх пляменьняў не дала рэзультатаў. Бо... павадыры патрэбавалі, зразумела, каб Францыя пакінула зусім край, зраклася „мандату“ быццам ад Лігі Народаў (скуль гэтае права над чужой зямлёй мае Ліга, няведама!). Сірыя хоча стварыць незалежнае нацыянальнае гаспадарства.

На гэтыя дамаганьні камісар адказаў, што Францыя ня можа адмовіцца... ад абавязкаў (!), наложаных на яе Лігай Народаў...

### Урадавы крызіс ў Чэха-Славакіі.

Урадавы крызіс ў Чэха-Славакіі зацягнуўся.

Пасьля няўдачы папярэдняга прэм'ера Свэглі прэзыдэнт Мазарык даручыў стварэньне ўраду павадыру каталіцкай народнай партыі Шрамку. Але і той—з прычыны вострых адносінаў з сацыялістамі—таксама адмовіўся ад даручэньня.

Пражскія газэты пішуць, што прэзыдэнт мае паклікаць на прэм'ера павадыра сацыялістаў, але што ў канцы да ўлады быццам вернецца папярэдні прэм'ер Свэгля.

### Кітайская рэвалюцыя.

У Пэкіне адбываюцца вялізарныя дэманстрацыі работнікаў і студэнтаў проці сучаснага габінэту. У апошняй дэманстрацыі прымала ўчасьце больш 10.000 чалавек. Дэманстранты кінуліся да палацу „прэзыдэнта“ Туана, каб змусіць яго да адрачэньня ад улады. Але той уцёк. Паліцыя і войска занялі места, але адносяцца да дэманстрантаў зычліва.

Туан заявіў, што адрачэцца ад улады. Рэвалюцыйным рухам і кіруе партыя „гомінжам“ (кітайскія камуністы).

### Камісар Японіі ў Кітаі.

Японскі ўрад назначыў асобнага паўнамоцнага камісара, які мае паразумявацца з павадырамі кітайскіх групаў, інфармаваць урад аб выпадках і ў патрэбе прымаць рашучыя пастановы... Што гэта яшчэ за „мандат“ Японіі на Кітай?

## ХРОНІКА.

**Гаспадарчы крызіс у Вільні.** „Kur. Wil.“ піша, што ў аднэй толькі Вільні — з прычыны нястачы абаротнага капіталу і церазьмерных падаткаў—з пачаткам 1926 году будзе зьліквідавана звыш 50 проц. таргових прадпрыемстваў.

**„Антыпанствовыя“ інтэрпэляцыі.** „Słowo“ ў аддзеле хронікі „Urzędowe“ падае, што камісар ураду на м. Вільню, сталы наш „прыяцель“ п. Вімбор, „па-

правіў" „абмылку" п. Маршалка Сойму і сканфіскаваў „Бюлетэнь Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады" за „зьмешчаныя там пасольскія інтэрпэляцыі антыпанствовага зьместу".

Як ведама, інтэрпэляцыі, прынятыя маршалкам Сойму і прачытаныя ў Сойме, лічацца, па закону, „імунізаванымі", значыць, ня могуць падпягаць канфіскацыі. Але... пры пану міністру Рачкевічу пан Камісар Ураду з такой „драбніцай" не рахуецца!..

**Ці судовыя прыгаворы абязываюць адміністрацыю?** Гэтае пытаньне само сабой узьнімаецца, гледзячы на тое, як віленская адміністрацыя адносіцца да прыгавору віленскага акружнага суда, каторы прызнаў права ўласнасьці на Базыльянскія муры ў Вільні (Вострабрамская 9) за праваслаўным духавенствам. Вось-жа—ня гледзячы на гэты прыгавар — мястовы архіварыус, вядомы Студніцкі, самовольна займае кожнае памяшчэньне, якое звальняецца ў гэтым гмаху, пад Дзяржаўны Архіў, хаця апошні ня мае ніякога законнага права захопліваць чужое памяшчэньне бяз згоды ўласьніка. А адміністрацыйная ўлада Студніцкаму ў гэтым дапамагае.

Ці не падумалі паны віленскія адміністратары, якое ўражаньне на вучняў праваслаўнае духоўнае сэмінарыі і беларускае гімназіі робіць гэткая непашана ў адносінах да судовага прыгавору?!

**Трыуфм польскага нацыяналізму.** Орган Саюзу Спажывецкіх Каапэратываў Польскае Рэспублікі „Spólnota" друкуе карэспандэнцыю з Вільні, у якой польскія „апалітычныя" каапэратары трыумфуюць, што ўрэшце дабіліся поўнае ўлады ў кіраваньні тутэйшым саюзам каапэратываў.

Тут-жа і вылезла шыла з мяшка: пакуль саюз каапэратываў, які гуртаваў бадай выключна беларускія каапэратывы, быў у беларускіх руках, і беларусы, маючы асаблівую большасьць, давалі ў управе мейсца прадстаўнікам **усіх нацыянальнасьцяў краю**,—дык усе палякі бяз розьніцы партыяў хаялі гэты саюз, вінавацячы яго ў.... нацыяналізьме! У гэтым-жа асьмеліваецца вінавацiць яго і карэспандэнт „Spólnoty" — і то пасьля таго, як польскія „каапэратары" на чале з ...прадстаўніком Дэлегатуры, п. Жэвускім! — заўладалі саюзам і **выкінулі з управы яго ўсіх непалякоў**, — ведама, перад усім **усіх беларусаў**! І цяпер польскі нацыяналізм трыумфуе, што... каапэрацыя „ачышчана" ад нацыяналізму і палітыкі!..

Но—но! Цынізм паноў польскіх „каапэратараў", як відаць, ня ведае ўжо ніякае меры, калі навет **прадстаўніка польскае палітычнае ўлады лічыць... „апалітычным"**!..

**Хто ўзгадоўвае польскую моладзь?** Надовячы орган віленскіх польскіх манархістаў падаў вестку, што рэктар віленскага ўнівэрсытэту, праф. М. Зьдзеховскі, выбраны ў склад прэзыдымуу тутэйшае манархічнае арганізацыі.

Добрых-жа і „лёяльных" у адносінах да польскае „Дэмакратычнае Рэспублікі" грамадзян будзе ўзгадоўваць пан Рэктар—ідэйны ворзг рэспубліканскага ладу і дэмакратызму!

**Да ведама студэнтаў—беларусаў.** Новаабраны ўрад Б.С.С. падае да ведама ўсім калегам і калежанкам—беларусам, што сэкрэтарыят Беларуск. Студ. Саюзу функцыянуе ў серады і суботы ад 4 да 6 гадз. па паўдні. Біблiятэка ў суботы і нядзелі ў 4—6 гадз.

Адрэс: Віленская 12—6.

# Жыцьцё Беластоку.

## Мітынг Белар. Сялянск.-Работн. Грамады.

Беласток — колішні буйны фабрычна-заводзкі цэнтр зусім цяпер падупаў. Нэндза выглядае з усіх куткоў. Безрабоціца страшэнная. Да 7.000 рабочых звольнены ад працы, значная частка фабрык пазачынялася, рабочыя выкінуты на брук; работы публічныя мястовага магістрату амаль ня зусім спыніліся. Становішча рабочае клясы надта цяжкае, а тут яшчэ даецца ў знакі дарагоўля; незадаволеньне сярод рабочае клясы расьцець. Дапамога безработным ад 6 да 10 злотых у тыдзень на кожнага ня можа лічыцца дастатачнай ня толькі для сямейнага рабочага, але і для адзінокага чалавека. Але-ж ня трэба забывацца, што апроч гэных сямёх тысяч безработных афіцыяльна зарэгістраваных і дастаючых гэную жабрацкую дапамогу, ёсьць ня менш 8 тысячаў такіх асобаў, якія і раней—як яшчэ працавалі фабрыкі — працы жаднай ня мелі.

І вось-жа, гэтыя рабочыя пазбаўлены абсалютна і навет тэй нязначнай дапамогі, якую дастаюць звольненыя з фабрык—нядаўна і ў апошнія дні.

На груньце цяжкага палажэньня рабочае клясы ў Беластоку і змаганьня безработных за лепшае бытаваньне іх адбываюцца перыадычна арышты. Так у першых лічбах цяперашняга сьнежня месяца заарыштавана ізноў некалькі рабочых, а спасярод іх і кіраўнік Беларускага Сэкрэтарыяту ў Горадні грам. Павал Шукайла, які мае каля 50 гадоў.

6./XII. адбыўся ў Беластоку мітынг, нарыхтаваны Соймавым Клюбам Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады. Мітынг адбыўся ў найвялікшай салі ў Беластоку, у тэатры „Palase". Саля тэатру была біткам—набіта беластоцкім пралетарыятам. З прамовамі выступалі дэпутаты з „Грамады" Сым. Рак-Міхайлоўскі і Пав. Валошын. Прамоўцы ахарактэрызавлі перад сабранымі сучаснае палітычнае і гаспадарчае становішча Польшчы, прычыны фінансавага крызісу, палажэньне рабочых у другіх прамысловых цэнтрах Польшчы, угадоўскую палітыку тых польскіх партыяў, якія намагаюцца гуртаваць каля сябе рабочых, як P.P.S. N.P.R. Ch. D.

У значнай меры прамоўцы застанаўліваліся на крытыцы палітыкі цяперашняга ўраду ў адносінах да рабочае клясы і нацыянальных меншасьцяў у Польшчы, ілюструючы фактамі праявы гэтае палітыкі. Паўтары гадзіны саля з вялікай уважнасьцю слухала прамоўцаў, час-ад-часу абдараваючы іх гучнымі воплескамі.

Пасьля мітынгу паадзінокія рабочыя і групамі падыходзілі да беларускіх дэпутатаў, горача дзякавалі іх за прыезд і прасілі не забывацца аб Беластоку і на будучыну.

Не абыйшлося і без інцыдэнту. На мітынг, апрача шпікоў і паліцыі, як заўсёды, забралася і пара нейкіх дэвотак ксяндзоўскіх.

Гэтым апошнім не спадабалася, што дэпутаты мелі прамовы пабеларуску. Але іх крыкі і піскі жаднага ўплыву не зрабілі ні на сабраных, ні на прамоўцаў, з боку якіх была зьвернута пад адрэсам хацеўшых сарваць мітынг увага, што, як дэпутаты беларускія, яны гавораць на сваей мове, што большасьці прысутных як-раз ляпей зразумела беларуская мова ды, што ўрэшце злосныя шавіністы польскія могуць пакінуць салю. Пад агульны сьмех прысутных падняўся быў адзін нейкі панічок і выйшаў, але ні адна жывая душа не пайшла за ім. Збянтэжаны панічок прастаяў усё ж пры дзьверах салі да канца мітынгу, які аж да апошняй мінуты адбываўся пры поўным спакою.

**Прысутны.**

# Карэспандэнцыі.

## Ці гэта школа?

(З Горадзеншчыны, в. Пяскі, Масалянскае гм.).

Вёскі Кубельнікі, Навасёлкі і Пяскі, Масалянскае гм., ужо некалькі гадоў дамагаюцца беларускае школы. Некалькі заяваў падалі сяляне школьнаму інспэктару, некалькі дзесяткаў разоў езьдзілі да яго паўнамоцнікі ад вёсак, і ўсё-ж такі,—ясна! — школы роднай нам ня далі.

І вось, цяпер — у адказ на дэклярацыі на моцы „языковых уставаў" — прыехаў у свой час інспэктар у Есьмонты „спраўджаць", хто хоча, а хто ня хоча беларускае школы. Казаў ён сялянам, што, як хлопцы пойдуць у войска, дык трэба будзе ведаць польскую мову, а таму трэба, каб была польская, а не беларуская, школа; і яшчэ іншыя хітрыкі ён тасаваў да сялян, каб, або застрашыць, або абаламуціць, абы толькі сяляне падпісаліся на польскую школу.

Ведама, сяляне запужаны, дык болей трусьлівыя казалі, што хай будзе і польская мова выкладацца, але школа беларуская павінна быць; болей адважныя і моцныя крэпка стаялі за беларускую школу, ня слухаючы ні аб якой польскай мове.

Гэтак сваей цьвёрдасьцяй за беларускую школу адзначыўся Янка Пятух, з в. Кубельнікі.

І паехаў інспэктар, як кажуць, „не солоно хлебавши". Але, відаць, са злосьці прыслаў — замест беларускае школы—польскага вучыцеля.

Сяляне яго ня прынялі і ня далі яму памешканьня, толькі абаламучаныя каталікі, якім есьмантоўскі ксёндз убівае ў голавы, што яны „палякі". — далі яму сховішча.

І так адчынілі польскую школу, а цяпер мы бачым, што гэта за школа і вучыцель. Ня кажучы аб яго ведзе, — сам ён асоба дэмаралізаваная ў поўным значэньні гэтага слова. Навет „палякі" (каталікі) не спагадаюць яму. Страшна б'ець вучняў і дэмаралізуе вясковую моладзь, зьбіраючы на вечарыны ў школу, дзе „абыдзенымі штучкамі" кампрамітуе сябе і дэмаралізуе моладзь, Дзяўчаты кажуць, што навет паміж „дваракоў" Біслінгавых такіх не спатыкалі. Цяпер ужо ня йдуць на „вечарыны".

Цяпер-жа сяляне кажуць: апошні грош аддалі-б за беларускую школу, бо цяпер ясна і відавочна бачаць, што толькі родная беларуская школа прынясе нам асьвету і дабро!..

**Вясковы.**

# З Радавае Беларусі.

## Водгукі 10-лецьця беларускае школы.

У радавай беларускай прэсе знаходзім гарачы вотклік на нядаўна адсьвяткаваны Заходняй Беларусяй 10-летні юбілей закладзінаў першае легальнае беларускае школы. Паміж іншым у „Сав. Бел." зьмясьціў абшырную стацьцю аб бел. школе ведамы сваей колішняй працай на віленскім груньце **Аркадзь Смоліч**, які гэтак падлічае заваяваньні беларускае школы на Усходзе:

„Чатыры тысячы беларускіх пачаткавых школ, дзесяць пэдтэхнікумаў, чатыры вышэйшыя школы з частковым беларускім выкладаньнем, цэлая армія беларускіх настаўнікаў, міліёны экзэмпляраў падручнікаў — вось здабыцьці беларускай школьнай справы к сёлетняму юбілею, якія дае Савецкая Беларусь. Але мала таго: адкрываюцца яшчэ сотні беларускіх школ для беларускага насяленьня за межамі БССР—у Гомельшчыне і Смаленшчыне".

Да гэтага трэ дадаць і тое, што беларуская мова зьяўляецца абавязковым прадметам выкладаньня ў-ва ўсіх пачаткавых школах другіх нацыянальнасьцяў у межах Радавае Беларусі.

## Адчыненьне С.-Гасп. Акадэміі.

У Горках адбылося ўрачыстае адчыненьне новае беларускае вышэйшае школы: **Сельска-Гаспадарскае акадэміі.**

Гэта—чацьвертая вышэйшая беларуская школа ў Радавай Беларусі.

## Зьезд „Маладняка".

У сувязі з адбытым у Менску зьездам аб'яднаньня беларускіх пісьменьнікаў выясьняецца, што ў склад саюзу „Маладняк" уваходзе 500 з лішкам сяброў. Саюз існуе ўсяго два гады і ўжо пасьпеў адчыніць свае філіі ў-ва ўсіх акругах (паветах) і некаторых раёнах (валасьцёх).

## Новыя драматычныя творы.

У вечар адчыненьня ў Менску ўсебеларускага зьезду работнікаў зямлі і лесу 17 лістапада для членаў зьезду і яго гасьцей адбыўся спэктакль БД Тэатру **„Панскі гайдук" Н. Бываеўскага.**

На конкурс п'ес для вясковае сцэны, абвешчаны Галоўпалітасьветы, паступіла больш за 25 драматычных твораў.

# Усячына.

## Аэрапляны-гіганты.

У апошніх манэўрах ангельскага флёту прыймалі ўдзел новыя аэрапляны-гіганты, вага якіх дасягае 16 тонн, а агульная даўжыня крыльляў—40 мэтраў. У аэрaплянах пабудованы спэцыяльныя выгадныя пакойчыкі для лётчыкаў і мэханікаў. Гэтыя аэрапляны могуць лётаць у паветры некалькі дзён.

# Паштовая скрынка.

Атрымана:

Ад: Антона Міравовіча, Яна Сліжа, Аляксандра Кавалеўскага, Уладзімера Шуманскага, М. Замулкі, Сьцяпана Буткевіча, Рамана Беганскага, Яна Міцкевіча, Гальяша Пракшановіча, Міхала Улановіча, Лаўрэна Емяльянчыка, Сініцкаго, Аляксандра Наумовіча, Пятра Зяновіча, Л. Кабяка, Тодара Сьвірыды, Лявона Дабрыянава, Барыса Рамановіча, Ціхана Міскі, С. Пабудзея, кс. Мікалая Барыслаўскага, Паўлы Шлыка, Пятра Гурэўскага, Уладзімера Каляды, Я. Дабрыяна, Сяргея Забаўскага, Антона Турыка—**па 2 зл.**

Ад: Ф. Клаўсуця, Аляксандра Уласэвіча, Аляксандра Біча, Аляксандра Троцкага, Мікалая Будніка, Яна Цытовіча—**па 3 зл.**

Ад: Т. Пальчэўскага, Сьцяпана Мятлы, С. Томкі, Яна Ваські, Яна Попкі, Уладзімера Шахоўскага, Аляксея Ярмаловіча, Трафіма Сакаловіча, Шлотскаго, М. Краснапольскаго—**па 4 зл.**

Ад: Мікалая Кульбакі, др. Гольдбурга, Максіма Міхайлоўскаго, Ю. Макуліка, Міхала Скока, Алесі Каньчук—**па 5 зл.**

Ад: С. Татарына, Ю. Яроцкага, Аляксандра Малойлы, Зыгмунта Сямашкі, Паўла Дрэмчука — **па 6 зл.**

Ад: Віктара Шэрэмэта і Яна Махомэта—**па 8 зл.**

Ад: Кобака, Якуба Бегуна, кс. Міхала Шаха, П. Бельскаго—**па 10 зл.**

Ад: В. Чэховіча—**14 зл.**

Ад: Ігната Дзяменіка—**5 зл. 50 гр.**

Ад: Язэпа Шухно—**9 зл.**

Ад: Аляксея Бурака—**11 зл.**

Ад: С. Пагуды—**3 зл. 50 гр.**

Ад: Фэлікса Капусты—**20 зл.**

Ад: Якуба Саўчыка—**7 зл.**

# Юрыдычныя парады.

**П. П. Шыманчыку, Косаўскі павет.**

*Запытаньне*: Калі йшоў у прымы ў 1921 г., цесьць і цешча абяцалі мне тры дзясяціны зямлі і будоўлю ў пасаг маёй жонцы. Але цесьць у той час служыў у дварэ, і одпіс рабіць ня было часу, бо цесьцю нельга было адарвацца ад службы; і гэтак асталося.

А сяньня цесьць прышоў са службы і адпісаць ня хоча; дык я пытаюся: ці магу я падаваць у суд, каб адсудзіць абяцаную цесьцем і цешчаю зямлю і будынак або плату за 4 гады?

*Адказ*: Падаваць у суд ня можна, ня маеце права жадаць ад цесьця зямлі.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.